Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны







№10 (163), ЧЭРВЕНЬ 2013 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Усе мы народ, і ўсё лепшае, што мы робім, ёсць справа народная.**

***Антон Чэхаў***

МЕРКАВАННЕ

# РАЗБУРАЛЬНАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ

**Адсутнасць у Беларусі развітай грамадзянскай супольнасці стала галоўнай прычынай доўгажыхарства аўтарытарызму. Насельніцтва жыве ў замкнутым коле разбуральнага гвалту. Пад адміністратыўным уціскам яно трывае ўладу, якая не будуе незалежную, дэмакратычную, прававую дзяржаву, а метадычна падточвае падмурак нацыі, ігнаруе мову, культуру, Канстытуцыю, законы.**

Стрыжнем аўтарытарызму з'яўляецца захаванне абсалютнай улады, якая забяспечвае пануючаму клану руль, а з ім і розныя ўласныя выгоды. Філосаф М. Бярдзяеў у кнізе «Истоки и смысл русского коммунизма» слушна піша: «Проблема власти была основной у Ленина и у всех следовавших за ним. Это отличало большевиков от всех других революционеров. И они создали полицейское государство, по способам управления очень похожее на старое русское государство». У XXI стагоддзі беларускі ўзурпатар упарта наступае на старыя граблі, паўтараючы памылкі бальшавікоў.

Асаблива выразна бачыцца бесперспектыўнасць такога шляху на прыкладзе палітычнага і эканамічнага развіцця краіны. З усталяваннем аўтарытарнага рэжыму грамадзяне Беларусі страцілі магчымасць праводзіць свабодныя, сумленныя прэзідэнцкія і парламенцкія выбары, мець сапраўды легітымную, законную ўладу. У такіх умовах адбываецца назапашванне агрэсіі з абодвух бакоў, што выліваецца ў «халодную грамадзянскую вайну». Больш свядомая частка грамадства не можа мірыцца з узурпацыяй улады, якая адразу прывяла да жорсткага адміністратыўнага ўціску, да рэпрэсій, да знікнення палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, журналістаў, да татальнай карупцыі чыноўніцтва, а кіруючы клан пры дапамозе міліцыі і спецслужбаў бязлітасна падаўляе мірны пратэстны рух, беспрычынна прымяняе штрафы і зняволенне, што ў сваю чаргу нараджае ў душах многіх людзей новы прыступ страху і апатыі.

Што тычыцца эканомікі, то да яе эфектыўнага развіцця не гатовы ні ўлада, ні насельніцтва. Амаль 20 (!) гадоў існавання аўтарытарнага рэжыму не прывялі да мадэрнізацыі прамысловай і сельскагаспадарчай вытворчасці. Выключэнне складаюць сумесныя з замежнымі партнёрамі прадпрыемствы, але гэта — невялікі марафет, як кажуць, для форсу. Асноўны масіў эканомікі пад кіраўніцтвам кадраў, загартаваных «развітым сацыялізмам», як раней, «ударна» працуе па савецкіх лекалах, набіваючы склады мала каму патрэбнай прадукцыяй.

Паводзіны прадстаўнікоў правячага клана зразумелыя, іх палохаюць любыя змены. Але і насельніцтва да гэтага часу не можа зразумець прамую сувязь узроўню свайго жыцця з тымі палітычнымі і эканамічнымі інстытутамі, якія дзейнічаюць у краіне. Масавыя ўяўленні пра эканоміку застаюцца надзвычай прымітыўнымі. Капіталістычны рынак з канкурэнцыяй падабаецца нашым людзям тады, калі яны купляюць замежныя якасныя аўтамабілі, кампутары, мабільнікі, тэлевізары, халадзільнікі, пыласосы. Як толькі грошы канчаюцца, адразу цікавасць да рынкавай эканомікі прападае.

З сумнай усмешкай назіраю, як расійска-беларускія газетныя гібрыды, афіцыйны мясцовы друк, тэлебачанне і радыё стараюцца абяліць рэжым, вышукваюць хоць нейкія станоўчыя прыклады яго дзейнасці, выдаюць правалы і праколы за перамогі. Вось тыповая інфармацыя з «АиФ», якая, цытуючы кіраўніка краіны, вымушаную меру выдае за «бацькоўскі клопат»: «Технику, которая не будет реализована на экспорт и находится на складах, направить в колхозы и совхозы. Это не бесплатно. Может быть, в рассрочку. Если кто-то сразу будет покупать, мы ему сделаем хорошую скидку до 25%, а может, и 30%. Губернаторы решат, сколько и какой техники им необходимо». Гэты тэкст паказвае ручное кіраванне ва ўсёй «красе». Зноў тых, хто канкрэтна працуе на зямлі, гаспадарамі не лічаць...

Адзін з персанажаў аповесці братоў Стругацкіх «Трудно быть богом» казаў: «Умные нам не надобны, надобны верные». Якраз гэтую формулу ўзяў на ўзбраенне аўтарытарны рэжым, насаджаючы ўсюды «сваіх людзей». Але з вернымі, ды бяздарнымі кадрамі, як паказвае гісторыя чалавецтва, зрабіць нешта талковае ніколі не ўдаецца. Усе «грандыёзныя» праекты канчаюцца пшыкам.

Папа рымскі Францішак I у казанях часта падкрэслівае: «Сапраўдная сіла — у служэнні». Гэтае чалавечае асэнсаванае дзеянне вырастае з працы на самога сабе, на сям'ю і так — да служэння Айчыне. Заўважце, сіла не ў выкананні ўладных каманд, не ў халуйскім, тупым прыслужванні начальству, як таго патрабуе аўтарытарны або дыктатарскі рэжым, а ў шчырым служэнні, якое прадугледжвае высокія мэты і слаўныя здзяйсненні. А яно немагчыма без дэмакратычных перамен.

Пакуль што наша грамадства нагадвае спалоханага звярка, які схаваўся ў нару. Усе чакаюць толькі нечага кепскага: бюджэтнікі — скарачэння штатаў, спынення фінансавання, прадпрымальнікі — праверак падатковай інспекцыі і штрафаў, чыноўнікі — сачэння і кайданкоў на рукі, апазіцыянеры — новых рэпрэсій і арыштаў. А дзе ж неабходны пазітыў?

Разбуральная рэальнасць абступае нас з усіх бакоў, раструшчвае фізічна і маральна. Хто ж яе стварае? Самі людзі! Калі яны не рашаюцца спыніць аўтарытарны гвалт, змяніць сваё жыццё да лепшага, то гэта азначае, што вірус разбуральнасці знаходзіцца ўнутры нас. Кожнаму жыхару Беларусі трэба пазбаўляцца ад яго, і як мага хутчэй. ( скарочана)

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**
**"Свободные новости +"**

АДДАЦЬ ТАК

# ДАЎГІ ЗА ПАСТАЎЛЕНУЮ ПРАДУКЦЫЮ РАСТУЦЬ

**Пратэрмінаваная дэбіторская запазачынасць арганізацый Гарадоччыны у адносінах да агульнай дэбіторскай мае адзін з самых вялікіх адсоткаў у краіне. Па прастому кажучы: не прадаем -- а аддаем.**

Дэбіторская запазычанасць гэта сума даўгоў, якія належаць прадпрыемству, фірме, кампаніі з боку іншых прадпрыемстваў, фірмаў, кампаній, а таксама грамадзян, якія з'яўляюцца іх даўжнікамі, г.зн. дэбіторамі. Дэбіторская запазычанасць ўяўляе сабой адцягненне (імабілізацыі) з гаспадарчага абароту ўласных абаротных сродкаў, гэты працэс суправаджаецца ўскоснымі стратамі ў даходах прадпрыемства. А прасцей кажучы – прадукцыю прадпрыемствы Гарадоччыны паставілі, а грошы за яе не атрымалі і пры гэтым выйшлі тэрміны вяртання гэтых сродкаў.

Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў даныя па дэбіторскай запазычанасці, так і па пратэрмінаванай, усіх рэгіёнаў краіны. Арганізацыі Гарадоччыны маюць самы кепскі працэнтны паказчык пратэрмінаванай дэбіторскай запазычанасці да ўсёй запазычанасці на Віцебшчыне і пяты ў краіне.

Пратэрмінаваная дэбіторская запазычанасць на пачатак траўня 2013 года склала 16 151 млн. рублёў і вырасла з пачатку года на 4,4 мільярды рублёў. І гэта пры тым, што год назад пратэрмінованая запазычанасць была ў 6,8 млрд. рублёў.

У гэтай сітуацыі кепска тое, што за больш трэці пастаўленай прадукцыі (37%) ўжо прайшлі тэрміны вяртання грошаў. Як кажуць у народзе, падаравалі дзядзі. Горшыя паказчыкі гэтага фінансавага менеджменту толькі ў гаспадарак Лунінецкага, Зэльвенскага, Крупскага раёнаў. Лідэрам па гэтай безгаспадарчасці з'яўляецца Ваўкавыскі раён Гарадзенскай вобласці, дзе працэнт пратэрмінованай запазычанасці дасягнуў 44,1%.

Адно суцяшае, што на Гарадоччыне пакуль спыніўся абсалютны рост дэбіторскай запазычанасці. Калі на пачатку года дэбіторскай запазычанасці было на 45 913 млн. рублёў, то на пачатак траўня засталося вяртаць сродкаў на 43 608 млн. рублёў.

**Леанід Гаравы**

ПРАВАВАЯ ДАПАМОГА

# ПРАКУРАТУРА ДАПАМАГАЕ НЯДБАЙНЫМ ГАСПАДАРНІКАМ

**Іск пракурора Гарадоцкага раёна Міхаіла Пацеява гаспадарчым судом Віцебскай вобласці да недабразычліўца ААТ "Птушкафабрыка "Гарадок" задаволены ў поўным аб'ёме.**

Паводле інфармацыі Генеральнай пракуратуры адзначана паспяховая дзейнасць пракурора Гарадоцкага раёна па абароне інтарэсаў ААТ У "Птушкафабрыка "Гарадок" у гаспадарчым судзе Віцебскай вобласці. Так пракурор Гарадоцкага раёна звярнуўся ў гаспадарчы суд Віцебскай вобласці з пазовам у інтарэсах ААТ «Птушкафабрыка «Гарадок» да прыватнага гандлёвага ўнітарнага прадпрыемства «Праекцыя часу» аб спагнанні запазычанасці ў суме 111 млн. рублёў за адгружаную па дамове пастаўкі прадукцыю. Пазоў пракурора задаволены ў поўным аб'ёме.

Але цікава заўважыць, што гэта ПГУП "Праекцыя часу" спецыялізуецца на пастаўцы аўташын самай рознай мадыфікацыі, а з нашай птушкафабрыкі магла атрымаць хутчэй за ўсё сельскагаспадарчую прадукцыю. Ды і ў сецівe дастаткова інфармацыі аб падмане спажыўцоў гэтай фірмай "Праекцыя часу".

Генеральная пракуратура адзначае, што ў мінулым годзе ў гаспадарчыя суды рэспублікі органамі пракуратуры прад'яўлена 311 іскаў і заяў аб распачынанні загаднай вытворчасці на агульную суму больш за 39,5 млрд. беларускіх рублёў, 72303 даляра ЗША, 4,6 млн. расійскіх рублёў. У І квартале 2013 пракурорамі ўжо прад'яўлена 139 іскаў і заяў на суму амаль 42,3 млрд. беларускіх рублёў, 3060 расійскіх рублёў.

Значная колькасць зваротаў у суд звязана з абаронай інтарэсаў дзяржаўных суб'ектаў гаспадарання. У 2012 годзе прад'яўлена 69 іскаў і 65 заяў у парадку загаднай вытворчасці на агульную суму больш за 19 млрд. рублёў, у бягучым годзе - 11 пазоваў і 23 заявы на агульную суму каля 14,2 млрд. рублёў. У інтарэсах арганізацый аграпрамысловага комплексу ў 2012 годзе і мінулым перыядзе 2013 прад'яўлена 23 пазову, памер іскавых патрабаванняў склаў 6,8 млрд. рублёў.

**Л. Антонаў**
**www.prokuratura.gov.by/main.aspx**

# Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

*************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

ГРАМАДСКАЕ АБМЕРКАВАННЕ

# “НЕ!” — ФАРМАЛЬНАМУ ГРАМАДСКАМУ АБМЕРКАВАННЮ

**Леанід Гаравы, актывіст Руху “За свабоду!”, звярнуўся да старшыні Гарадоцкага райвыканкама Васіля Муранкова са зваротам аб парушэнні правоў пры ўдзеле ў грамадскім абмеркаванні праекта развіцця Гарадка.**

14 чэрвеня Леанід Гаравы не падпісаў пратакол камісіі Гарадоцкага райвыканкама аб выніках грамадскага абмеркавання “Дэталёвага плана развіцця цэнтральнай часткі г. Гарадка”, бо ў ім ніякім чынам не адлюстраваны меркаванні грамадзян па неабходнасці захавання рынка прыватных прадпрымальнікаў у Гарадку.

У электронным звароце на імя старшыні райвыканкама Васіля Муранкова актывіст Руху “За свабоду!” абгрунтоўвае сваю адмову наступнымі прычынамі

Пры наведванні Гарадоцкага райвыканкама напрыканцы красавіка, калі вялося грамадскае абмеркаванне гэтага праекта, Леаніду Гараваму давялося толькі пабачыць графічныя схемы гэтых праектаў у маленькім кабінеце №212 галоўнага архітэктара Тасмінскай С.В., але ён не меў магчымасці азнаёміцца з тэкставай часткай гэтага праекта, каб выказацца па сутнасці.

Пры тым наведванні кабінета архітэктара яму было паведамлена аб уключэнні ў групу прадстаўнікоў грамадскасці для падвядзення вынікаў грамадскага абмеркавання на паседжанні адпаведнай камісіі і тым, што ён будзе запрошаны на яе паседжанне. Але на паседжанні камісіі Л. Гаравога не запрасілі, а прапанавалі падпісаць дакумент аб дзеях у якіх актывіст не ўдзельнічай. Леанід Гаравы ацэньвае гэта як падробку дакументаў, што цягне адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Між тым пры наведванні Гарадоцкага райвыканкама для ўдзела ў грамадскім абмеркаванні праекта спадар Гаравы выказаў свае заўвагі і прапановы па наступных пазіцыях генеральнага плана развіцця Гарадка быццам да 2030 года.

Актывіст лічыць, што Гарадок не можа развівацца эфектыўна, калі будзе ліквідаваны рынак для прыватных прадпрымальнікаў. Па праекту Гарадоцкага райвыканкама прыдугледжана ліквідацыя існуючага рынку і забудова на яго месцы гандлёвага цэнтра Гарадоцкага райспажыўсаюза, куды перамесціцца мо толькі малая частка прадпрымальнікаў. Але пры гэтым невядома: Колькі месцаў там атрымаюць прыватнікі? Які кошт будзе арэнды? Колькі прыватнікаў страцяць працоўныя месцы?

Прапанова Гаравога заключалася ў тым, каб каля існуючага аўтавакзала прадставіць магчымасць прыватнікам мець свой рынак. Ігнараванне гэтай прапановы (ніякіх прапаноў і заўваг не было – сказана ў пратаколе) сведчанне некампетэнтнасці супрацоўнікаў райвыканкама, якія не разумеюць усёй дзяржаўнай палітыкі па развіццю прадпрымальніцтва ў малых гарадах. Тым больш, што самі прадпрымальнікі неаднаразова звярталіся ў райвыканкам з гэтым пытаннем.

Таксама ў генеральным плане ніякім чынам не вырашаецца перaспеўшая транспартная праблема сувязі мікрараёна вул. Юбілейная, Палявая з цэнтрам Гарадка. Ды і фактычна гэта частка цэнтра горада, бо месціцца ў паўкіламетры ад цэнтральнай плошчы райцэнтра. Пешаходны пераход праз плаціну – гэта выпрабаванне для ўсё больш састарэлага насельніцтва мікраараёна, якое павялічваецца ў зімовы перыяд, а таксама з гадамі.Ператварэнне гэтага мікраараёна ў дэпрэсіўны ( кватэры за рэчкай не прапанаваць – частае удакладненне ў аб’явах па пошуку кватэр у Гарадку) на сумленні мясцовых уладаў. Да будаўніцтва новых забудоў у Гарадку неабходна вырашыць гэту транспартную праблему. Тым больш, што ў гэта веснавое раздарожжа 2013 года ўтварылася багна на вул. Завадской, дзе не маглі праехаць аўтамабілі.

Адначасова з гэтым не зразумела мэтазгоднасць развіцця Гарадка ў бок Віцебска з будаўніцтвам новага мікраараёна. Дарэчы, падрыхтоўчыя працы да праграмы жыллёвага будаўніцтва ў мікраараёне Бярозаўка распачаліся шчэ ў мінулым годзе без усякага грамадскага абмеркавання, што не адпавядае нормам беларускага заканадаўства.

Леанід Гаравы лічыць, што гэтых прычын дастаткова, каб не даваць згоду на ажыццяўленне праекта “Дэталёвага плана развіцця цэнтральнай часткі г. Гарадка”, які не толькі кансервуе існуючыя праблемы, але і стварае новыя.

Напрыканцы ліста актывіст Руху спадзяецца, што старшыня райвыканкама Васіль Муранкоў выправіць памылкі ( адсутнасць экспазіцыі, тэкставай часткі) пры правядзенні “грамадскага” абмеркавання праекта, а таксама ўключыць заўвагі і прапановы ў пратакол адпаведнай камісіі. Адказ на электронны зварот Леанід Гаравы разлічвае атрымаць у пісьмовай форме.

**Л. Антонаў**

ПРЫРОДА І МЫ

# БАБРЫ ПРЫЙШЛІ І АМАЛЬ СЫЙШЛІ

**За апошняе дзесяцігоддзе ў Гарадку з’явілася больш пяці сямействаў баброў. Але апошнія назіранні сведчаць аб наяўнасці толькі двух сямействаў баброў каля ракі Гаражанка.**

Напрыканцы траўня найбуйнейшыя газэты сьвету паведамілі пра няшчасны выпадак, які здарыўся10 красавіка ў Камянецкім раёне Берасьцейкай вобласьці. Рыбакі захацелі сфатаграфавацца побач з бабром, той напаў на аднаго зь іх і двойчы пракусіў артэрыю на назе. Ад страты крыві рыбак памёр.

Папуляцыя баброў у Беларусі хутка расьце, уяўляючы сабой пагрозу лясам ... а цяпер і людзям. Каб разабрацца з бабром, які гуляў вакол сельскага клюбу, былі выкліканыя пажарныя. Ён накінуўся на пажарную машыну, давялося адбівацца ад яго брандспойтам, каб прымусіць яго адступіць.

Зараз папуляцыя баброў на Беларусі каля 80 тысячаў і яны прыносяць шкоду лясам і сялянскім гаспадаркам, а таксама людзям. Бабры ўсё часьцей наведваюць вёскі і паселішчы, чые жыхары баяцца новых нападаў.

Але ў нашым Гарадку бабры жывуць не адно дзесяцігоддзе: то павялічваючы сваю папуляцыю, то памяншаючы ў выніку браканьерства.

Першыя назіранні баброў ў Гарадку на Гаражанцы адносяцца да 80-х гадоў мінулага стагоддзя. Тады бабры пабудавалі норы на Гаражанцы каля 3-га Зарэчанскага завулка, што размяшчаецца перад новым мастом.

Найбольшая іх колькасць была недзе пяць гадоў назад. Менавіта ў той час вучні СШ№2 пад кіраўніцтвам настаўніцы біялогіі Т. А.Ласкінай пісалі навуковую працу аб паводзінах баброў у межах Гарадка. Вучні назіралі сямейства баброў, якое размясцілася на возеры каля габрэйскіх могілак з боку вуліцы Стараполацкай. Боброва хатка была даволі вялікіх памераў.

Яшчэ больш цікавую гісторыю распавядаюць жыхары шматпавярховага дома №26 па вул. Палявой. Пад час самага вялікага веснавога паводка на рацэ Гаражанцы ў 2009 годзе бабры падымаліся да шматпавярховага дома і дзеці іх падкармлівалі. Жылі бабры ў той час у старым рэчышчы Гаражанкі пасля плаціны.

На сёння гэтыя сямейства баброў у межах Гарадка жыхарамі не назіраюцца.

Але па-ранейшаму засталося сямейства баброў каля 3-га Зарэчанскага завулка. Пад час сёлетняга паводка на Гаражанцы там правалілася дарога на глыбіню да палутара метраў. Старажылы сведчаць, што гэта была боброва нара з Гаражанкі, дзе яны застаюцца і зараз. Таксама жыхары пачатку вуліцы Галіцкага каля старога маста назіралі па вясне баброў у ручаі, што нясе воды ў Гаражанку.

Актывізаваліся бабры і ва ўрочышчы Варабьёвы горы, якое часткова ўваходзіць у Гарадок. Папуляцыя баброў на возеры Святое зрэзала вялікія асіны на яго берагах і пачувае сябе там вальготна, маючы добрую кармавую базу.

Размясціліся бабры і на берагах возера Шчарбакоўскага. Спачатку яны пабудавалі вялікую хатку на паўднёвым беразе возера, а з мінулай восені пашырылі сваю дзейнасць і на паўночны бераг у садавовым таварystве “Лясное”. З возера прарылі канал у бераг, а таксама паваліл лазовы хмызняк. Мясцовыя дачнікі былі вымушаны бараніць свае дрэвы, што размешчаны каля ручая, бо бабры пачалі іх грызці.

Далейшае існаванне папуляцыі баброў у Гарадку ды і ў краіне залежыць ад экалагічнай палітыкі ў адносінах да іх. Мінпрыроды прапануе перасяліць баброў з тэрыторыі іх вялікай шчыльнасці на Палессі ў малазаселеныя бабрамі куткі Віцебскай вобласці. Але ў любым выпадку людзям трэба быць абачлівымі ў адносінах з гэтымі начнымі жывёламі. Першы трагічны выпадак таму яскравае сведчанне.

**Леанід Гаравы**

БЫЦЬ ПІЛЬНЫМ!

# НЯДБАЙНЫ «ЮЗЭР» ШУКАЎ ПАРАТУНАК У МІЛІЦЫІ

**Гарадоцкі раённы аддзел следчага камітэта распачаў крымінальную справу наконт “Распрацоўкі, выкарыстання або распаўсюджання шкодных праграм” адпаведна арт. 354 ч.1 Крымінальнага кодэксу.**

Намеснік пракурора Гарадоцкага раёна Максім Зіновік у артыкуле “Пагрозы «глабальнай павуціны»” (http://gorodok.vitebsk-region.gov.by/ru/vlast/prokuratura/news_prokur ) паведаміў аб гісторыі, якая распачалася ў кастрычніку 2012 года.

Менавіта тады ў Гарадоцкі РАУС звярнуўся адзін з жыхароў г. Гарадка з заявай аб тым, што неўстаноўленая асоба, выкарыстоўваючы сетку інтэрнэт, заблакавала яго кампутар.

У ходзе праверкі было ўстаноўлена, што звярнуўшыйся 59-гадовы кампутарны карыстальнік напярэдадні выходзіў у сетку Інтэрнэт для прагляду парнаграфічных сайтаў, пры гэтым нічога не захоўваў і ня капіяваў, пасля чаго радасна выключыў свой кампутар і лёг спаць.

Якое ж было яго здзіўленне, калі на наступны ж дзень пры ўключэнні кампутара на экране манітора, замест звыклага «Прывітанне» застаўкі ён убачыў прама ёй процілеглую, у якой гаварылася, што яго кампутар заблакаваны за прагляд, капіяванне і тыражаванне відэаматэрыялаў, якія змяшчаюць элементы парнаграфіі, педафіліі і гвалту над дзецьмі. Таксама, у дадзенай застаўцы было пазначана, што для разблакавання кампутара, яму неабходна перавесці грашовыя сродкі ў памеры 400 000 рублёў на электронны кашалёк сістэмы «Web-money», інакш на працягу 12 гадзін усе дадзеныя на кампутары будуць незваротна выдаленыя, а карыстачу пагражалі непрыемнасцямі з законам.

Нядбайнаму «юзэру» прыйшлося ўсё-ткі звярнуцца ў праваахоўныя органы для выратавання свайго «жалеза». Па дадзеным факце Гарадоцкім РАСК ўзбуджаная крымінальная справа па ч. 1 арт. 354 КК Рэспублікі Беларусь. Дзеянне вераломных шукальнікаў нажывы, распаўсюджвальнікаў віруса, пагражае ім рознымі відамі пакарання аж да пазбаўленьня волі тэрмінам да двух гадоў.

Варта звярнуць асаблівую ўвагу, што многія карыстальнікі сеткі Інтэрнэт звяртаюцца да выкарыстання тых ці іншых рэсурсаў без праверкі іх надзейнасці, а бо як абвяшчае лацінскае выслоўе «Aditum nocendi perfido praestat fides», г.зн. давер, аказаны вераломна, дае яму магчымасць шкодзіць.

Стаўку інтэрнэт-махляр перш за ўсё робіць на псіхалогію. Пераканаць заплаціць за ўтойванне таго што ганіць, нават у адсутнасці апошняга, - вось яго галоўная задача. Таму засцерагчыся ад падобнага роду непрыемнасцяў можа і павінен перш за ўсё сам карыстальнік, выкарыстоўваючы афіцыйныя рэсурсы сеткі і маючы антывіруснае праграмнае забеспячэнне.

**Л. Антонаў**

ЭПІДЭМІЯ

# У НАСЕЛЬНІЦТВА АДБІРАЮЦЬ І ЗНІШЧАЮЦЬ СВІНЕЙ

**У трох вёсках Віцебскага раёна – Ліпаўцы, Шапечына і Асінаўка - у насельніцтва канфіскавалі і знішчылі свіней, якія ўтрымліваліся ў асабістых прысядзібных гаспадарках. Матывуецца гэта нейкай эпідэміяй, але якой менавіта гаспадарам жывёлаў не паведамляецца.**

У Шапечына, убачыўшы карэспандэнта «Народных навінаў Віцебску» з камерай, людзі хавалі вочы і адмаўляліся гаварыць. Атрымалася пагутарыць толькі з маладым хлопцам - ён падцвердзіў, што 19 чэрвеня ў іх вёсцы канфіскавалі ўсіх свіней, пагрузілі іх у прычэпы трактароў і павезлі ў невядомым кірунку. Насельніцтву параілі асабліва не распаўсюджвацца пра тое, што адбываецца, калі не хочуць непрыемнасцяў на працы.

У Асінаўку ліквідатары дабраліся толькі сёння, і частка гаспадароў паспела зарэзаць сваіх свіней. Але ў тых, хто не паспеў апрацаваць убоіну, свіныя тушы забіралі і канфіскоўвалі.

Як распавяла адна з жыхарак Асінаўкі, за некалькі дзён да гэтага падворкі абыходзіў старшыня сельсавета, які запісваў у каго колькі змяшчаецца свіней. Сёння адбіраць жывёлаў прыехалі прадстаўнікі ветэрынарнай службы ў суправаджэнні міліцыі. Забітых свіней ніхто не ўзважваў, нават мернай стужкі пры сабе ў ліквідацыйнай каманды не аказалася - вага жывёлы ў акт канфіскацыі запісваўся «на вока».

Нашаму карэспандэнту атрымалася пагаварыць з дэзінфектарамі, якія прыехалі апрацоўваць пабудовы, у якіх ўтрымліваліся свінні. Яны сказалі, што не ведаюць, чым былі хворыя жывёлы, проста атрымалі ўказанне апрацаваць адрыны каўстычнай содай. Да гэтага, пры канфіскацыі, памяшканні апырсквалі хлоркай. Зрэшты, мець зносіны з прэсай гэтыя людзі відавочна не жадалі.

**http://news.vitebsk.cc/2013/06/20**

ПРАТЭСТ

# ПРАДПРЫМАЛЬНІКІ — СУПРАЦЬ МЫТНАГА САЮЗА

**27 чэрвеня па ўсёй Беларусі прайшоў папераджальны страйк індывідуальных прадпрымальнікаў, незадаволеных новымі ўмовамі гандлю ў рамках Мытнага зьвязу. Страйкавалі і ў Віцебску.**

Рэчавыя рынкі часткова ці цалкам не працавалі практычна ўва ўсіх абласных цэнтрах, а таксама ў Баранавічах, Полацку, Касьцюковічах ды іншых гарадах.

Найбольш маштабным пратэст быў у Менску — акцыю падтрымалі Чэрвеньскі рынак, гандлёвыя цэнтры «Паркінг», «Люстэрка», «Манетка», «Уручча», шапікі на тэрыторыі, прылеглай да гіпэрмаркету «Бігз», на стадыёне «Дынама». Эпіцэнтрам прадпрымальніцкага незадавальненьня стаў рынак «Ждановічы», дзе агулам спынілі працу блізу паўтары тысячы павільёнаў. У ходзе акцыі затрымалі лідэра аб'яднаньня «Пэрспэктыва» Анатоля Шумчанку і шэраг незалежных журналістаў. Сярод апошніх быў і наш карэспандэнт Ігар Карней.

Масавасьць акцыі зьдзівіла нават ініцыятараў яе правядзеньня. Зрэшты, як сказаў з прыступак гандлёвага цэнтру «Сьвет моды-1» на рынку ў Ждановічах адзін зь лідэраў прадпрымальніцкага руху Анатоль Шумчанка, новыя ўмовы гандлю, якія сталіся вынікам сяброўства Беларусі ў Мытным зьвязе, тычацца занадта вялікай колькасьці людзей, каб рабіць выгляд, што нічога не адбываецца.

Найперш нараканьні выклікае тэхнічны рэглямэнт, які ўступае ў сілу 1 ліпеня і тычыцца перадусім рэалізацыі тавараў лёгкай прамысловасьці: «Тэхнічны рэглямэнт — гэта рашэньне беларускага боку, ініцыятар — Расея. Беларускі бок у 2011 годзе зьняў з нас усе патрабаваньні: мы працавалі спакойна, пакуль ня ўляпаліся ў гэты Мытны зьвяз. Як толькі ўляпаліся — так і панеслася. Дарэчы, ініцыятарам палажэньня была Расея, распрацоўвае Казахстан, а пакутуюць беларусы. Вось вам і закулісьсе Мытнага зьвязу. Паколькі ў іх ніякія законы ня дзейнічаюць, там сапраўдны бардак. Таму яны папросту не зьвяртаюць увагі на такіх, як мы. Адзіны выхад — гэта вывесьці прадпрымальнікаў розьнічнага гандлю з-пад дзеяньня дадзенага тэхнічнага рэглямэнту.

Хай яны, краіны Мытнага зьвязу, ствараюць агульныя органы правапарадку, хай яны на межах агульнага рынку Расеі і Казахстану ловяць сваіх кантрабандыстаў, глядзяць, каб у іх былі гэтыя маркі, каб захоўвалася якасьць. Хай у стэпах Казахстану і на Далёкім Усходзе ўсё гэта робяць. Але мы не павінны цярпець з-за таго, што яны напісалі законы (у сябе не выконваюць — плюнулі), і мы тут давай, танцуй. Пад пагрозу нацыянальны бізнэс паставілі, перавярнуўшы ўсё з ног на галаву».

Незадаволенасьць прадпрымальнікаў патлумачыў Анатоль Шумчанка — маўляў, пастанова аб нібыта падаўжэньні тэрміну гандлю паводле ранейшых схемаў існуе толькі на словах:

«Паслухайце: вы ж пісьменны чалавек, чыноўнік, які працуе ва ўладзе. Не дэманструйце прылюдна хоць свой узровень. Гэтая пастанова не прайшла юрыдычнай экспэртызы ў Міністэрстве юстыцыі. Навошта вы нам яе зачытваеце?»

На падтрымку калегу прыйшоў Аляксандар Таўстыка. Ён безапэляцыйна заявіў: сёньня вырашаюцца ня столькі ўмовы тэхнічнага рэглямэнту, а тое, куды заўтра могуць рушыць незадаволеныя прадпрымальнікі: «Як прадпрымальнік падтрымаю Шумчанку. Фактычна мы абмяркоўваем наступнае: альбо мы працуем на 1 ліпеня ў нармальных умовах, у гэтых будынках, альбо мы выходзім на Кастрычніцкую плошчу (воклічы з натоўпу — „Усё правільна!“). Вы хочаце зараз сказаць, што ў Пуціна ў Расеі чысты бізнэс, ня шэры, што там усе маюць сэртыфікаты? А з чым вы тады зараз прыйшлі да нас? Вы зараз прачыталі пра нейкія нацыянальныя сэртыфікаты. Мы зараз працуем у адзіным Мытным зьвязе. І мы ведаем, што цяпер ёсьць новы ўзор сэртыфікатаў для краінаў Мытнага зьвязу. А вы зноў павяртаеце нас да нейкага нацыянальнага сэртыфікату. Ідзіце пачытайце што-небудзь разам з Кабяковым».

Прадпрымальнікі абураныя, што беларускія ўлады традыцыйна ставяць іх перад фактам, не спрабуючы выпрацаваць агульную пазыцыю з тымі, каму ў новых умовах рэальна працаваць. Так, спадарыня Ніна кажа, што чыноўнікі заўсёды ўспрымаюць гандляроў як клясу, якая зусім ня ўпісваецца ў сыстэму пдянавай эканомікі. А таму і раіцца з дэструктыўнымі элемэнтамі не зьбіраецца: «За што мяне, маіх сяброў так караюць нашы чыноўнікі? Проста таму, што яны нас лічаць за быдла. Я калісьці гандлявала ў Расеі. Прыходзіць АБЭП, падатковая: добры дзень, вашы дакумэнты. Адказваю: дзяўчаты, я зь Беларусі. Яны перапытваюць: а вы заплацілі падаткі? Не, кажу. Давайце, маўляў, заплацім. Плачу па нашых грашах 50–100 тысяч рублёў — і працую далей. Няма праблемаў, да пабачэньня, усе міла разышліся. А нашы прыходзяць — я стаю, калачуся, у мяне дрыжыць голас, стаю перад імі навыцяжку. Пры тым, што гэта мая ўласнасьць, я на гэты тавар зарабляла ўсё жыцьцё, мне ж ніхто ня даў першапачатковага капіталу. Я б шмат чаго нагаварыла, але, на жаль, у нашай краіне лепей маўчаць…»

Пры канцы акцыі Анатоля Шумчанку запрасіў на гутарку намесьнік начальніка РАУС Цэнтральнага раёну сталіцы Шарамецьеў. Прадпрымальнік адмовіўся размаўляць зь міліцыянтам сам-насам, сказаўшы, што калі ёсьць намер яго затрымаць, то можна гэта зрабіць і прылюдна. Той адступіў.

У суправаджэньні журналістаў Свабоды, «Народнай волі» і парталу Tut.by спадар Шумчанка даехаў да гандлёвага цэнтру «Паркінг», але пры пасадцы ў ліфт усіх затрымалі. Журналістаў пасьля дзьвюх гадзін ідэнтыфікацыі асобы ў Цэнтральным РУУС выпусьцілі, Шумчанку некалькі да вечара пратрымалі ў пастарунку, а пасьля ў закрытым рэжыме асудзілі на 5 сутак адміністрацыйнага арышту.

**"Радыё Свабода"**

ПОМНІЦЬ!

# «СЬВЕТЛЫ БЫКАЎ»

**19 чэрвеня — сьветлы дзень. Мы звычайна ў гэты дзень ішлі да Васіля Быкава, віншавалі яго з Днём народзінаў. Я бачыў, што Быкаў і сам любіў такія спатканьні. Ён пачуваўся ў Фронце душэўна ўтульна. Атмасфэра ласкі і дабрыні, якая атуляла яго і якая ўвогуле была тады ў сядзібе БНФ, вельмі імпанавала яму. Усе жылі, як на крыльлях. Ужо была Незалежнасьць (наша мара і наша перамога), была беларуская школа, вольны друк, змагаліся за добрае будаўніцтва сваёй краіны.**

Для многіх з нас гэта былі гады душэўнага шчасьця. Для Васіля Ўладзімеравіча, відаць, таксама. Калі ён бываў у нас у сядзібе, абліччa яго станавілася лагодным, а вочы сьвяціліся. Яму было добра.

У 1994 годзе яму споўнілася 70 гадоў. Грамадзкасьць і афіцыёз, і мы ў Фронце, рыхтаваліся кожны па-свойму тое адзначыць. Але Быкаў (які ўвогуле не любіў урачыстых афіцыёзаў) адмовіўся ад ушанаваньня свайго юбілею і ў Саюзе пісьменьнікаў, і ў іншых месцах. Ён сказаў, што будзе толькі ў Фронце, у сядзібе БНФ. І я разумеў, чаму ён так вырашыў.

Прыйшла моц людзей. Але не было ні адной чужой афіцыёзнай фізіяноміі, ніводнай фальшывай прамовы. Сабраўся цьвет нашай творчай нацыі, былі цёплыя позіркі і словы, простыя шчырыя дачыненьні і народныя сьпевы. Думаю, што было якраз тое, што трэба было гэтаму вялікаму чалавеку для добрасьці яго шчырай беларускай душы.

Праз 10 гадоў гэтыя ж самыя людзі праводзілі яго ў апошні шлях. Ужо перамяніўся сьвет. Цемра, хамства, гразь і нянавісьць віравалі вакол, імкнуліся зганьбіць ягоную сьмерць. Гэбоўскія бесы выскоквалі на дарогу, спрабавалі танцаваць перад яго труной. Эфір гэбісцкіх рацый поўніўся матам і подлымі камандамі на подлыя справы (гэта чулі сьведкі).

Нічога ня выйшла ў цемрашалаў. Абвалілася ў іх усё. Наша сіла мацнейшая. Сьветлым і магутным быў апошні шлях Васіля Быкава.

Быкаў мог дажыць да 90 гадоў. Ён мог яшчэ быць разам з намі. Мы вельмі перажывалі, што ён адышоў і ведаем ягоных скрытых забойцаў. І ўсё ж такі Боская воля лепшая, чым нашыя меркаваньні.

Дажываючы да 90, гэты вялікі чалавек вымушаны быў бы з году ў год адчуваць павелічэньне нянавісьці, брыдоты, ілжы вакол свайго сьветлага імя. Зьдзекваліся б зь яго старасьці так, як рабіў гэта адзін вусаты мярзотнік у час яго сьмерці, абплёўвалі б яго мінулае, яго творчасьць і славу. Гэта было б, бо такая прырода падлюг, што цяпер дасягнулі ўлады.

За сябе мне сказаць проста. За 25 гадоў у палітыцы, вакол майго арганізму ўжо даўно стварылася стальная браня. І няма на сьвеце такой ілжы з боку нізкіх, якая б мяне раніла ці выбіла б з раўнавагі. Нездарма яны захлёбваюцца — гэта ад бясьсільля.

Не сумняваюся, што ўсё перамог бы і Быкаў, але... прапусьціўшы праз сэрца. Бо такая прырода сьветлых людзей.

Сьмерць Быкава выклікае адчуваньне трагедыі і горычы ня толькі таму, што ворагі прысьпешылі яго паміраньне і ён мог яшчэ жыць, але найперш таму, што сьветлы Быкаў пайшоў, а акупанцкая чэрнь засталася, віруе, кіруе, і ён ня ўбачыў яе канца.

Ён убачыць яе зь нябёс. Тут вельмі розныя сутнасьці. Нечысьці ў індывідуальным выяўленьні абавязкова прыходзіць натуральны канец. Нечысьць нічога не пакідае для будучыні.

Тым часам імя і творчасьць Быкава належаць вечнасьці, бо адлюстравалі яе ў вобразах, думках і характве. Творчасьць Быкава — гэта сусьветны ўзровень, пазнаньне для ўсяго чалавецтва.

Гэта будзе ўсьвядомлена моцна, калі моцнай будзе Беларусь, тая сьветлая, культурная і магутная народная Беларусь, за якую змагаўся Народны Фронт.

**19 чэрвеня**
**Зянон ПАЗЬНЯК**

БЕЛАРУСЬ -- ЕЎРАЗЬВЯЗ

# У БРУСЭЛІ ЧАКАЮЦЬ ВЫЗВАЛЕННЯ ПАЛІТВЯЗНЯЎ

Еўрасаюз у аднабаковым парадку зняў візавыя санкцыі з міністра замежных спраў Уладзіміра Макея, і гэта пры тым, што ў беларускіх турмах застаюцца палітвязні. Што стаіць за аднабаковым рашэннем Еўрасаюза і да чаго можа прывесці гэтая саступка? «Беларускі партызан» пагутарыў з палітолагам, намеснікам старшыні Руху "За Свабоду" Алесем Лагвінцом.

***- Афіцыйны Мінск не зрабіў ні аднаго кроку насустрач Еўразвязу, які ў аднабаковым парадку адмяніў візавыя санкцыі ў дачыненні да Уладзіміра Макея. Чаму?***

- Думаю, рэжым пастараўся паднесці некаторыя факты як вялікі прагрэс: не дадзены ход справах супраць Пачобута і Булгакава, маюцца факты візітаў Палецкіса і Міятавіч, апошняя, дарэчы, была неўязны ў Беларусь. Зразумела, што сітуацыя ў краіне застаецца стабільна цяжкай, але рэгіянальны кантэксті, мабыць, настойлівыя сігналы з Мінска падштурхнулі краіны ЕС зрабіць саступку ў працэдурным пытанні. Гэты крок, хутчэй, варта разглядаць як праява жадання ЕС стаць больш прыкметным у Беларусі.

***- Візавыя санкцыі Еўрапейскага саюза ў дачыненні да Уладзіміра Макея прыпыненыя на той час, пакуль ён займае пасаду міністра замежных спраў Беларусі. І зроблена гэта з мэтай спрасціць дыпламатычныя кантакты паміж ЕС і Беларуссю. Так тлумачыць сваю пазіцыю Еўрасаюз. Наколькі лагічным Вам уяўляецца гэта рашэнне?***

- Рашэнне неадназначнае. Бачна, што ў ЕС аддаюць перавагу палітыцы ўцягвання, а ня ізаляцыі. Гэтая тэндэнцыя прасочваецца і ў палітыцы ЕС у дачыненні да Украіны і іншым краінам Усходняга партнёрства, дзе таксама хапае палітычных праблем і парушэнняў правоў чалавека. За ўплыў на краіны УП ідзе канкурэнцыя паміж ЕС і Расіяй. Для ЕС важна захаваць і пашырыць еўрапейскую перспектыву для нашага рэгіёну.

***- Вядомы палітолаг назваў адмену візавых санкцый паразай Еўропы: прыпыняючы санкцыі, Брусэль адмаўляецца ад прынцыповай пазіцыі па беларускім палітвязням. А, значыць, вагаецца і не ведае, што рабіць.***

- Параза Беларусі і яе грамадзян, у тым ліку і палітычных каментатараў, у тым, што многія любяць быць назіральнікамі і каментатарамі, а ня гульцамі. Працей за ўсё назапасіцца поп-корнам і глядзець на «бітву тытанаў». Варта глядзець фактах ў твар, а не кідацца лёзунгамі і абвінавачваннямі. Краіны ЕС найбольш паслядоўна і прынцыпова (прычым, хутчэй, больш паслядоўна, чым многія грамадзяне нашай краіны) аказваюць рознага роду падтрымку палітвязняў і іх сем'ям. ЕС пакуль не бачыць у Беларусі крытычнай масы, гатовай аказваць істотны ціск на рэжым і абараняць свае правы.

***- Брусэль зрабіў крок насустрач Мінску. Які ход у адказ гатовы зрабіць беларускі рэжым?***

- Усе чакаюць вызвалення палітвязняў. Гэты крок - лакмусавая паперка.

ГУЛЬНІ БЮРАКРАТАЎ

# ЯК ЗАБАРАНІЛІ, ТАК І ДАЗВОЛІЛІ

**Мясьніковіч дазволіў калоць сьвіней па-старому, калі на месцах, у тым ліку і ў Гарадоцкім раёне, не выканалі яго даручэнне аб "арганізацыі рэзу" у кожным аграгарадку. Фэрмэрскім і асабістым гаспадаркам вярнулі права самастойна забіваць сельскагаспадарчых жывёл на мяса.**

Адмысловая пастанова Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчаваньня апублікаваная на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале і ўступае ў сілу ад 14 чэрвеня.

Згодна з пастановай, дазваляецца да 1 студзеня 2014 года самастойна забіваць буйную і дробную рагатую жывёлу, сьвіней, коней для продажу мяса.

Аднак рабіць гэта можна толькі пад кантролем ветэрынара з правядзеньнем санітарнай экспэртызы.

Гэтай праблемай асабіста займаўся прэм'ер-міністар Міхаіл Мясьніковіч.

На пачатку году была прынятая пастанова, што забіваць жывёл з асабістых гаспадарак будуць у спэцустановах. Потым гэтае пытаньне разглядалася на нарадзе ва ўрадзе. 22 траўня Мясьніковіч даручыў павялічыць колькасьць пунктаў для зарэзу сельскагаспадарчых жывёл. То бок зрабіць «забойныя цэхі» у кожным аграгарадку. Пры гэтым прэм'ер запатрабаваў павысіць якасьць такіх паслуг ды зьнізіць кошты.

Амаль празь месяц Мясьніковіч выказаў незадаволенасьць «арганізацыяй рэзу». І вярнуў права прыватным гаспадаркам самім забіваць жывёл на мяса.

**"Радыё Свабода"**

АФРЫКАНСКАЯ ЧУМА

# ПОЛГОДА СКРЫВАЛИ АФРИКАНСКУЮ ЧУМУ СВИНЕЙ?

**Любопытный документ был опубликован 28 июня на сайте Национального правого портала. Речь идет о постановлении Минсельхозпрода №3, которое предоставляет главному ветврачу страны и его замам, главным ветинспекторам областей и их замам полномочия командовать губернаторами и иными местными руководителями в случае подозрения на или выявления очага африканской чумы свиней (АЧС).**

При подозрении на АЧС (перечисленные должностные лица) вправе давать обязательные для исполнения указания местным исполнительным и распорядительным органам о введении на территории соответствующих административно-территориальных единиц режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", - говорится в документе.

Аналогичные полномочия предоставлены ветврачам по указаниям "о введении в первой угрожаемой зоне режима, аналогичного режиму в неблагополучном по АЧС пункте, с проведением соответствующих ограничительных мероприятий", сообщает АФН.

В связи с последними событиями – речь идет о выявлении очага АЧС в Гродненской области – данный документ выглядит вполне закономерным: он позволяет ветеринарной службе приструнить тех губернаторов и начальников районного масштаба, которые по понятным причинам хотели бы повременить с введением карантина и началом весьма непопулярных мероприятий по устранению последствий АЧС, включая полную зачистку от свиней целых районов.

Постановление Минсельхозпрода вступает в силу через 15 дней после подписания. В этой связи особое любопытство вызывает следующий факт – документ был подписан еще 4 февраля 2013 года, а зарегистрирован на Национальном правовом портале – только 28 июня 2013 года (регистрационный номер 8/27636).

Такую способность Минсельхозпрода к пророчеству можно объяснить лишь тем, что в начале примерно полугода назад в Беларуси уже были зафиксированы случаи АЧС и властям удалось избежать утечки информации (а с публикацией постановления решили повременить).

**«Белорусский партизан»**

АТРЫМАЦЬ ЗАРОБАК

# ПРАЦАЎНІКІ «ВЫБІВАЮЦЬ» ЗАРОБКІ ПРАЗ СУД

**Працаўнікі Круглянскага ільнозавода 20 чэрвеня падалі пазоў у суд Круглянскага раёна з патрабаваннем да адміністрацыі прадпрыемства выплаціць заробкі за красавік і травень, а таксама грошы на адпускныя.**

Жанчын, якія працуюць на прадпрыемстве, адправілі ў адпачынак і не пусцілі на працоўныя месцы 20 траўня, пасля таго, як яны калектыўна выступілі супраць закрыцця Круглянскага льнозавода. Да гэтага часу ім не выплацілі заробак за красавік і адпрацаваныя дні траўня, а таксама так званыя адпускныя грошы, якія павінны былі аддаць перад сыходам у вымушаны адпачынак.

Да падачы пазова ў суд жанчыны звярталіся па дапамогу ў пракуратуру ў Круглянскага раёна, аднак там іх не абнадзеілі ніякім чынам, сказалі, што завод усё роўна будзе зачынены.

Грамадская актывістка з Круглага Зінаіда Мілешчанка, якая дапамагае людзям адстойваць свае правы і складаць скаргі ў розныя інстанцыі, кажа, што людзі знаходзяцца проста ў адчаі.

«І ў мяне асабіста, і ў працаўнікоў льнозавода складваецца ўражанне, што раённыя ўлады ўсё робяць дзеля таго, каб не заплаціць работнікам завода за ліквідацыю іх працоўных месцаў ні капейкі.

Круглянскія ўлады не хочуць зачыніць завод і звольніць людзей згодна заканадаўства: своечасова папярэдзіць, выплаціць прадугледжаную законам дапамогу, ды паставіць на ўлік на біржу працы. Замест гэтага яны зачыняюць завод паэтапна. Жанчынам прапануюць часовую працу за 40 кіламетраў у Шклове, дзе яны змогуць адпрацаваць месяц-другі, а пасля зноў застануцца бяз працы. Улады проста хочуць прымусіць работніц льнозавода звольніцца па ўласнаму жаданню, каб не выплочваць грашовую дапамогу за страту працоўных месцаў.

Ім да гэтага часу не выплацілі заробак за красавік і травень, а таксама і адпускныя, хоць адпачынак у жанчын заканчваецца 25 чэрвеня. Я дапамагла працаўніцам льнозавода скласці і падаць пазоў у суд Круглянскага раёна, будзем чакаць, ці здолее ён абараніць іх правы».

Бальшыня працаўнікоў, якім пагражае звальненне, адпрацавалі на заводзе больш за 15 гадоў. Многія з жанчын знаходзяцца ў перадпенсійным узросце.

**«Вясна»**

ДЭМАКРАТЫЧНЫ РУХ

# ПРЭМІЯ БЫКАВА – У МАРАЧКІНА І ВАЙЦЮШКЕВІЧА

**19 чэрвеня на радзіме Васіля Быкава (у вёсцы Бычкі ва Ўшацкім раёне) адбылося ўручэнне сёлетняй прэміі "За свабоду думкі", заснаванай кіраўніком Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам.**

У музеі-сядзібе Васіля Быкава адбылася традыцыйная сустрэча, прысвечаная памяці пісьменніка. Каля 60 чалавек прыехалі ў Бычкі, каб ушанаваць вялікага пісьменніка. Сярод іх - палітыкі Вячаслаў Грыб і Аляксандр Мілінкевіч, 1-ы сакратар амбасады Славакіі ў Беларусі Эрык Липтак, бард Андрэй Мельнікаў, а таксама грамадскія актывісты і прадстаўнікі мастацтва і культуры з усёй Беларусі. На мерапрыемства таксама прыйшлі прадстаўнікі адміністрацыі Ушацкага раёна і мясцовыя жыхары.

Прэміяй "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава ў гэтым годзе ўганараваны два чалавекі – музыка Зміцер Вайцюшкевіч і мастак Алесь Марачкін.

Нагадаем, прэмія "За свабоду думкі" імя Васіля Быкава заснаваная лідарам Руху "За Свабоду" Аляксандрам Мілінкевічам у 2008 годзе. Прызначэннем прэміі з'яўляецца ўслаўленне моцы думкі і духу, плённай працы на ніве беларушчыны. Ідэя заснаваць яе ўзнікла пасля атрымання Мілінкевічам прэміі "За свабоду думкі" імя Андрэя Сахарава, якую ўручае Еўрапарламент.

Працы Алеся Марачкіна (псеўданім – Алесь Мара) захоўваюцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у музеях і прыватных галерэях Беларусі, Польшчы, Германіі, ЗША.

Алесь Марачкін узнагароджаны медалём Францыска Скарыны за высокія дасягненні ў справе нацыянальнага адраджэння, прапаганду культурнай спадчыны беларускага народа (1992). Двойчы адмовіўся ад ганаровага дзяржаўнага звання - "Заслужаны мастак БССР" у 1989 годзе, пратэстуючы супраць сістэмы дзяржаўнага патранату і кантролю за мастацтвам, і "Заслужаны мастак Рэспублікі Беларусь" у 1995 годзе на знак пратэсту супраць антыбеларускай і антыдэмакратычнай палітыкі Аляксандра Лукашэнкі.

Зміцер Вайцюшкевіч удзельнічаў у гуртах "Крыві" і "Палац". Цяпер ён лідар і кіраўнік гурту "WZ-Orkiestra". Гурт выконвае музыку ў стылі world music, рэтра, гарадскі шансон, рок, аўтарская песня. Прызнаваўся "Музыкам году" і "Выканаўцам году" на "Рок-каранацыі".

Шмат цёплых слоў у гэты дзень было адрасавана пісьменніку Васілю Быкаву. Яго сястра Валянціна распавяла, як да вайны Быкаў хацеў стаць мастаком і, хоць і быў самавук, праяўляў вялікі мастацкі талент. Але лёс склаўся так, што ён стаў мастаком слова.

Па словах Валянціны Уладзіміраўны, пісьменніку давялося нялёгка.

- Цэнзары не пакідалі яго ў спакоі, - адзначае сястра. - Усё таму, што ён пісаў праўду пра простых людзей, пра простых салдат, і гэтая праўда ніколі не падабалася начальству.

Ужо амаль 10 гадоў, як Быкава няма з намі. Нягледзячы на гэта, ён па-ранейшаму застаецца адным з самых папулярных беларускіх аўтараў. Што сведчыць: справа яго жыве.

Тое, што хвалявала Быкава ўсё яго жыццё - беларуская мова, незалежнасць і чалавечую годнасць - працягвае нас хваляваць і цяпер.

**www.pyx.by/bel/naviny/ruh/2989/**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V), Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку** 30.06.2013 у 21.10 Наклад: 290 асобнікаў. Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў. Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.